

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„ |
|---|---|---|

№ 34 (518) — Нядзеля, 4 верасьня 1960 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# Трэшчына ў камуністычным блёку

На працягу апошніх двух месяцаў увага цэлага сьвету была сканцэнтраваная перш за ўсё на падзеях у Конга. Гэтыя падзеі зацямнілі сабой адну вельмі важную рэч: працэс разьвіцьця канфлікту паміж Масквой і Пэкінам.

Ня гледзячы на ўсе запярэчваньні з боку гэтых двух камуністычных цэнтраў, для палітычных назіральнікаў ня было тайніцай, што ўжо ад даўжэйшага часу існуюць разыходжаньні паміж кіраўніцтвам СССР і Кітаю. Ня было тайніцай, прыкладам, што кітайскае камуністычнае кіраўніцтва было супраць нарады на найвышэйшым узроўні, ініцыятарам якое быў сам Хрушчоў. Кітайскія камуністыя ўважалі кажнае зьбліжэньне з Захадам адмоўным зьявішчам, у той час, як Хрушчоў — зразумела, з тактычных меркаваньняў — разглядаў такое зьбліжэньне «на дадзеным этапе» выгадным. Пасьля зрыву Хрушчовам нарады на найвышэйшым узроўні ў Парыжы, шмат якія палітычныя назіральнікі выказвалі думку, што немалую ролю адыграў ціск Кітайцаў на савецкае кіраўніцтва. Гэта, зразумела, былі толькі дагадкі. Аднак факт заставаўся фактам, што ў вадным пункце разыходжаньні існавалі. На працяту апошніх месяцаў у кітайскай камуністычнай прэсе, у цэлым шэрагу рэдакцыйных артыкулаў, паўтаралася адно цьверджаньне: вайна паміж камуністычнымі краінамі і гэтак званымі «імпэрыялістычнымі» (г. зн. заходнімі дэмакратыямі) — няўхільная. Гэта йшло наўсуперак усім заявам Хрушчова на працягу апошняга часу. Із свайго боку, у савецкай прэсе таксама пачалі зьяўляцца артыкулы, падпісаны ведамымі прозьвішчамі ў Савецкім Саюзе, у якіх крытыкаваліся розныя «сэктанты», «левыя ўхілістыя» і г. д. Важна адзначыць, што ніколі пры гэтым ні кітайская прэса, ні савецкая не называлі сваіх ідэялягічных праціўнікаў паймення.

Тое, што зноў прыцягнула ўвагу палітычных назіральнікаў цэлага сьвету да савецка-кітайскага канфлікту, быў 25-ты міжнародны Кангрэс Арыенталістых (усходазнаўцаў), які адбываўся ад 9-га да 16-га жнівеня ў Маскве. У гэтым кангрэсе меліся ўзяць удзел і кітайскія дэлегаты. Савецкая прэса ўжо доўга перад кангрэсам заяўляла, што гэты кангрэс будзе розьніцца сваім характарам ад папярэдніх, бо, маўляў, у цэнтры ўвагі будзе стаяць вызвольнае змаганьне афрыканска-азіяцкіх народаў. Пры гэтым, зразумела, савецкія навукоўцы прадэманструюць «неперpredaможную сілу марксыстоўска-ленінскай тэорыі, як мэтадалягічнай базы савецкай навукі»...

Ня толькі палітычныя назіральнікі, але й навукоўцы-ўсходазнаўцы чакалі з напружаньнем на кангрэс. Нікому ня было сакрэтам, што апошнім часам камуністычны Кітай сваёй агрэсыўнай палітыкай наставіў варожа да сябе грамадзтва шмат якіх азіяцкіх краінаў. Таму ня дзіва, што на кангрэсе можна было спадзявацца даволі напружаных мамэнтаў.

Масква надавала асаблівае значэньне заплянаванаму ўдзелу у кангрэсе кітайскай дэлегацыі. У заяве Падрыхтоўчага Камітэту яшчэ мінулым летам гаварылася: «Асабліва важным зьяўляецца факт, што ў Кангрэсе возьмуць удзел кітайскія навукоўцы. Іхная прысутнасьць на кангрэсе азначае, што ў будучыні канфэрэнцыі арыенталістых набудуць сапраўдны інтэрнацыянальны характар. Прамовы й даклады кітайскіх навукоўцаў пакажуць, якія вялізарныя посьпехі здабыў вялікі кітайскі народ у навуцы і культуры»...

Аднак кітайская дэлегацыя на Кангрэс не зьявілася. Гэта, зразумела, было вялікім ударам для саветаў. На пытаньні аб прычынах, савецкія навукоўцы — у неафіцыяльных гутарках — адказвалі, што Кітайцы заўсёды адмаўляліся прызнаваць арыенталістыку, як асобную навуку, і таму і не зьявіліся. Іншыя давалі такое тлумачэньне: Кітайцы наагул неахвотна бяруць удзел у міжнародных канфэрэнцыях; зашмат камплікацыяў — у такіх канфэрэнцыях бяруць удзел Амэрыканцы, а часта і прадстаўнікі Фармозы...

Варта таксама адзначыць, што й іншая канфэрэнцыя, якая мелася адбыцца ў жнівені ў Маскве — канфэрэнцыя знаўцаў Кітаю — не адбылася наагул. Як прычына было пададзена тое, што арганізатары не атрымалі дастатковай колькасьці навуковых дакладаў ад знаўцаў Кітаю.

Як мы казалі, якраз гэтыя факты зьвярнулі ўвагу сусьветнай грамадзкасьці на дачыненьні паміж кіраўніцтвам Савецкага Саюзу і камуністычнага Кітаю. Тымчасам былі атрыманыя весткі, што КПСС разаслала цыркулярны ліст усім камуністычным партыям з высьвятленьнем разыходжаньняў паміж КПСС і кіраўніцтвам Кітаю. Як ведама, асноўны пункт гэтых разыходжаньняў быў пастаўлены на Бухарэсцкай нарадзе кіраўнікаў камуністычных партыяў. Там перамагла тэза Хрушчова, што суіснаваньне з «капіталістычным» сьветам цяпер патрэбнае і мэтазгоднае. На прыгаданай нарадзе Кітайцы ня выступілі супраць гэтай тэзы. Здавалася-б — Кітайцы здалі свае пазыцыі. Але так ня было. Гэта паказала бліжэйшая будучыня. Няпрысутнасьць Кітайцаў на Кангрэсе Арыенталістых была ўжо вынікам канфлікту, які ў міжчасе, як выявілася, зайшоў вельмі далёка. Адзнакаў гэтага аж зашмат: савецкія спэцыялістыя, якіх да нядаўнага часу было тысячы й тысячы ў Кітаі, пакідаюць гэтую краіну; кітайскія студэнты выяжджаюць з савецкіх унівэрсытэтаў у Кітай; кітайскія часапісы ў расейскай мове, якія пашыраліся ў Савецкім Саюзе, спынілі сваё існаваньне; савецкія часапісы ў кітайскай мове, якія выходзілі ў Кітаі, таксама перасталі распаўсюджвацца.

Ёсьць яшчэ іншыя сымптомы, якія гавораць аб тым, што савецка-кітайскі канфлікт завайстраецца. Аб іх мы прыгадаем ніжэй. Але пара паставіць пытаньне: які характар мае гэты канфлікт? Чыста ідэялягічны? Можа справа толькі ў інтэрпрэтаваньні Маркса і Леніна?

Апошнія падзеі паказваюць, што гэты канфлікт куды больш шматбаковы. Бязумоўна, вялікае значэньне мае пытаньне, ці камуністычны сьвет можа суіснаваць з дэмакратычным. Але калі гэтае пытаньне ставіцца толькі рэтарычна — Кітайцы яшчэ не маюць атамных бомбаў — дык ня было-б аб чым і гаварыць. Але па ўсім выглядае, што цяперашні канфлікт ня толькі ідэялягічны, але мае і іншае карэньне.

Нечаканае паведамленьне аб тым, што Хрушчоў у хуткім часе мае наведаць Паўночную Карэю, шмат каго зьдзівіла. Зьдзівіла тым больш, што ў паведамленьні нічога не гаварылася аб тым, што Хрушчоў мае намер наведаць і Кітай. Гэта пацьвердзіла думку шмат якіх палітыкаў, што у кітайска-савецкім канфлікце найважнейшую ролю адыйгрываюць не так тэарэтычна-ідэялягічныя разыходжаньні, а змаганьне за ўплывы — за пяршынства ў камуністычным блёку. Меркаваньне гэтае пацьвердзілася і тым, што апошнім часам кітайскае камуністычнае кіраўніцтва з свай-

(Заканцэньне на 2-ой бач.)

# І яны „папулярызуюць“...

Сёлета ўжо некалькі разоў у беларускай савецкай прэсе былі напады на эміграцыйных беларускіх «буржуазных нацыяналістых», што яны на Захадзе быццам хвальшуюць беларускую гісторыю, гісторыю беларускае літаратуры, дасягненьні беларускага народу пад Саветамі. У гэтых абвінавачаньнях часамі паказвалася на канкрэтныя выпадкі («хвальшаваньне» эмігрантамі творчасьці Купалы, Коласа), але ў бальшыні, каб не называць выдадзеных беларускімі эмігрантамі твораў забароненых саветамі аўтараў і каб не даводзіць да ведама падсавецкаму беларускаму жыхарству дасягненьні эміграцыі — абвінавачаньні звычайна рэдагуюцца агульнікова: «беларускія буржуазныя нацыяналістыя за мяжой ... хвальшуюць ... выкрыўляюць ... прадстаўляюць у непраўдзівым сьвятле ...» і г. д.

Пасьля такіх «абвінавачаньняў» звычайна йдуць заклікі да савецкіх літаратараў, крытыкаў, гісторыкаў, напружыць больш сілы ў змаганьні з нацдэмаўскай ідэялёгіяй, пашыраць «праўду» аб дасягненьнях беларускага народу пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі па ўсім сьвеце і гэтым самым «дэмаскаваць паклёпы» беларускіх эмігрантаў. У свой час на зьезьдзе беларускіх савецкіх пісьменьнікаў была навет высунута прапанова стварыць асобны аддзел ці камісію, якая-б займалася зьбіраньнем і студыяваньнем усіх працаў аб Беларусі, яе гісторыі, культуры й інш., што выдаюцца на Захадзе, а перадусім — беларускімі эмігрантамі. Ці такі аддзел афіцыяльна быў створаны — няведама, але што ён існуе пры МВД — нікому не сакрэт.

З другога боку, у савецкай беларускай прэсе вельмі часта падчыркваюцца дасягненьні падсавецкіх працаўнікоў культуры ў пашыраньні беларускага імя ўва ўсім сьвеце. Апрача дзейнасьці «Таварыства культурнае сувязі з заграніцай», тут выхваляецца роля беларускіх пісьменьнікаў, творы якіх перакладаюцца на мовы розных народаў ня толькі Савецкага Саюзу, але й усяго сьвету. І як гэта звычайна прынята ў савецкіх умовах, тут абсалютна нічога не гаворыцца аб якасьці такога прапагаваньня беларускага імя, а падаюцца толькі лікі й лікі ды пералічаюцца аўтары, творы й мовы.

Кажнаму ведама, што творы **сучасных** савецкіх беларускіх пісьменьнікаў на **сучасныя** тэмы, калі-б навет былі перакладзеныя на ўсе важнейшыя мовы сьвету й выдадзеныя мільённымі тыражамі, абсалютна ня спрычыняцца да папулярызаваньня беларускае літаратуры, а разам з гэтым і беларускага імя. Калі йдзе аб беларускае імя й беларускасьць наагул — дык чытач іх у гэтых творах ня знойдзе, іх там няма. А якая-ж гэта будзе папулярызацыя беларускае літаратуры — калі замежны чытач ня будзе навет ведаць, што ён чытае твор перакладзены зь беларускае мовы, бо там будзе стаяць: «Пераклад з расейскае мовы». Гэтае апошняе тычыцца зрэшты ня толькі перакладаў твораў сучасных пісьменьнікаў, але й нашых клясыкаў.

Вось хоць-бы адзін з прыкладаў, які вельмі вымоўна пацьвярджае вышэй сказанае. У ўсходня-нямецкім месячніку „Nova“ (№ 5, 1960 г.), прысьвечаным паведамленьням аб новавыдадзеных кніжках у г. зв. Нямецкай Дэмакратычнай Рэспубліцы, пад пазыцыяй № 370 стаіць наступнае:

„Kolas, J., **Partisanen am Pripjat.** Aus dem Russischen. 264 S.

Dieser Bürgerkriegsroman berichtet, wie aus Großvater Talasch, ... der kühne Partisan des Bürgerkrieges wurde, der mit seiner Gruppe dem Feind schwere Schläge zufügte.“

(Колас, Я., **Партызаны над Прыпяцяй.** З расейскае мовы. 264 б.

Гэты раман з грамадзкае вайны расказвае, як зь дзеда Талаша... стаўся сьмелы партызан грамадзянскае вайны, які, із сваёй групай наносіў цяжкія ўдары ворагу.)

Гэтага «з расейскае мовы» для сярэдняга ўсходня-нямецкага чытача будзе поўнасьцяй дастаткова, каб лічыць Якуба Коласа пісьменьнікам **расейскім.** А таму папытаемся: што такая пазыцыя можа даць для папулярызацыі беларускае літаратуры за мяжой?! Наадварот — коштам імя й творчасьці беларускага пісьменьніка ўзбагачаецца літаратура расейская.

Бязумоўна ўсходня-нямецкае выдавецтва нельга тут абвінавачваць. Віноўныя тыя, што, седзячы ў Менску й трымаючыся маскоўскіх інструкцыяў, ведаюць толькі, як складаць статыстыкі «дасягненьняў». Яны могуць сказаць, што няма спэцыялістых для перакладаньня твораў беспасярэдня зь беларускае мовы. Ясна, што няма. Хто-ж возьмецца за такую працу, ведаючы, што няма навет слоўніка беларускае мовы, ня гледзячы на соракгадовае існаваньне «беларускае савецкае дзяржавы»? Ці-ж гэта не парадокс? Існуе Акадэмія Навук, розныя навуковыя інстытуты — а няма слоўніка беларускае мовы, беларуска-іншамоўных слоўнікаў, беларускае энцыкляпэдыі. Вось дык дасягненьні пад «мудрым кіраўніцтвам партыі»!

Такім чынам менскім функцыянэрам ад навукі, літаратуры й мастацтва можна было-б парадзіць менш займацца шуканьнем хвальшаваньняў там дзе іх няма, менш захапляцца сваімі «дасягненьнямі», а лепш пастарацца ня быць паразытамі на целе беларускага народу.

**А. Галубіцкі**

# Да 21-ай гадавіны II сусьветнай вайны

21 год таму, 1-га верасьня 1939-га году, пачалася Другая сусьветная вайна. Гэтая вайна ня толькі каштавала дзесяткі мільёнаў людзкіх жыцьцяў, спрычыніла нязьлічоныя няшчасьці, але, як ніводная з папярэдніх, зьмяніла абліча сьвету. Таму ўважаем за патрэбнае, у сувязі з 21-мі ўгодкамі прыгадаць аб жахлівых выніках і аб прычынах гэтае сусьветнае трагедыі.

На 20-ым зьезьдзе КПСС і пасьля яго Хрушчоў выкрываў і ганьбіў Сталіна. Аднак ён апраўдваў злачынную ролю Сталіна напярэдадні і ў часы вайны. Гэта значыць, што Хрушчоў абараняў палітыку Сталіна і ягоных паплечнікаў, палітыку, якая значна спрычынілася да выбуху жудаснай Другой сусьветнай вайны. За Хрушчовам і савецкая прапаганда да апошняга часу выкрыўляе гісторыю гэтай падзеі.

А як-жа выглядае праўда? У кнізе «Майн кампф» (Маё змаганьне), у якой вызначылася **крэдо** ягонай палітычнай дзейнасьці, Гітлер ставіў сабе за мэту знайсьці «лебэнсраўм» («жыцьцёвую прастору»), якая быццам-бы была вельмі патрэбнай для Нямеччыны. Гітлер не маскаваў сваіх мэтаў і мэтадаў. Ён ня ўтойваў, што гэтую «жыцьцёвую прастору» можна знайсьці толькі на Ўсходзе, у неабсяжных прасторах Савецкага Саюзу.

Яшчэ ў 1936-ым годзе, у часе побыту ў Польшчы, Гёрынг запрапанаваў польскаму ўраду супольную ваенную акцыю супраць Савецкага Саюзу, або прынамся, каб Польшча згадзілася прапусьціць нямецкае войска праз сваю тэрыторыю. Польскі ўрад адкінуў абедзьве прапановы. Такім чынам Гітлеру заставаліся 2 магчымасьці: вайна з Польшчай, або шуканьне іншых шляхоў. **І Гітлер іх шукаў.** У 1938-ым годзе ён захапіў Аўстрыю, Чэславаччыну й літоўскі порт Клайпэду. Аднак і гэта яму не давала добрых стратэгічных пазыцыяў. Застаўся адзін выхад — падбой Польшчы. Але й тут Гітлер сустрэў цяжкасьці, бо ўвесну 1939-га году Францыя й Англія загарантавалі недатыкальнасьць граніцаў Польшчы й Румыніі. Гэты факт паставіў Гітлера перад цяжкой альтэрнатывай — вайна з Захадам, якой ён не хацеў, бо на Захадзе ён ня мог знайсьці гэтай «жыцьцёвай прасторы», якая была ягонай мэтай, ягоным **крэдо.** І тут на дапамоту Гітлеру прыйшоў Сталін, які запрапанаваў яму саюз.

Паўтараем, Гітлер не маскаваў сваіх мэтаў і намераў падбою Савецкага Саюзу, таму Сталін і ягоныя паплечнікі не маглі мець ніякіх ілюзіяў, тым больш, што яны бачылі некалькігадовае імкненьне Гітлера да пошукаў шляхоў, дзеля паходу на Савецкі Саюз. Больш таго, заходнія дзяржавы, бачылі, што Гітлер няўхільна імкнецца да вайны й запрапанавалі савецкаму ўраду антыгітлераўскі саюз. Улетку 1939-га году Францыя й Англія выслалі свае вайсковыя місіі ў Маскву. Мэтай гэтых місіяў было ўзгодніць дзеяньні заходніх дзяржаваў і Савецкага Саюзу супраць гітлераўскай агрэсіі. І тут можна вобразна сказаць, што Сталін і ягоныя паплечнікі левай рукой вялі перамовы з заходнімі дзяржавамі, а правай дамаўляліся зь Гітлерам. Вынікам гэтага было падпісаньне гэтак званага Пакту «Рыбэнтроп-Молатаў» 23-га жнівеня 1939-га году.

Гэта разьвязала рукі Гітлеру. Праз тыдзень пасьля падпісаньня саюзу з Сталінам, ён пачаў Другую сусьветную вайну. Такім чынам, злачынная палітыка Сталіна й ягонай клікі значна спрычынілася да выбуху гэтай жахлівай вайны.

Каб апраўдаць злачынны саюз зь Гітлерам, бальшавіцкія кіраўнікі цьвердзілі і далей цьвердзяць, што «заходнія імпэрыялістыя нацкоўвалі Гітлера да нападу на Савецкі Саюз». Гэтае цьверджаньне ня вытрымоўвае ніякай крытыкі й супярэчыць простай лёгіцы. Бож з тэй хвіліны, калі Англія й Францыя загарантавалі недатыкальнасьць граніцаў Польшчы й Румыніі, яны анганжаваліся ў вайну зь Гітлерам і загароджвалі яму шляхі паходу на Ўсход — да жаданай «жыцьцёвай прасторы». Яны-ж самі прапанавалі Сталіну саюз супраць фашызму, толькі Сталін адкінуў іхныя прапановы і сам запрапанаваў саюз Гітлеру.

Паўстае пытаньне: чаму Сталін і ягоная кліка пайшлі на такую небясьпечную авантуру?

Ня цяжка знайсьці на гэта адказ: Кажны дыктатар ненавідзіць і баіцца дэмакратыі.

Сталіну дыктатар Гітлер быў бліжэйшым, чымся заходнія дэмакраты. Вось чаму Сталін і ягоная кліка шчыра жадалі, каб Гітлер разьбіў заходнія дэмакратычныя дзяржавы. Яны штурхнулі Гітлера да вайны з Захадам. За гэтую злачынную палітыку савецкія верхаводы чуць не заплацілі галовамі, а народы Савецкага Саюзу, як і Немцы, заплацілі цаною мільёнаў людзей і іхнай крывёю.

Псыхіка дыктатараў заўсёды і ўсюды аднолькавая. Прыкладам, і цяпер маскоўскія дыктатары сымпатызуюць дыктатарскім рэжымам або рэжымам з дыктатарскімі нахіламі. Таму й Хрушчоў гатоў навет ракетамі абараняць авантурную палітыку Фідэля Кастра. Ён з сымпатыяй гаворыць пра Насэра, Касэма, Люмумбу. Хрушчоў, які сам паняволівае дзесяткі народаў, хоча «вызваляць» народы, якія фактычна зьяўляюцца свабоднымі.

Авантурная палітыка Сталіна спрычынілася да жахлівых няшчасьцяў. Хрушчоў ня выракся авантурнай палітыкі шантажоў і правакацыяў. А гэта вельмі-ж небясьпечная палітыка. І аб гэтым варта было-б прыгадаць ды падумаць ў 21-шую гадавіну пачатку Другой сусьветнай вайны.

**П. С.**

# Таталітарыстыя ўсіх краінаў, яднайцеся!

Камуністычная прапаганда ўсіх краінаў савецкага блёку, а асабліва савецкая, не перастаюць кляймаваць Нямецкую Фэдэратыўную Рэспубліку, як «фашыстоўскую дзяржаву». Аднак, у той час, як у Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспубліцы яшчэ і цяпер вылоўліваюць былых нацыстоўскіх злачынцаў і арганізуюць над імі судовыя працэсы, у гэтак званай «Нямецкай Дэмакратычнай Рэспубліцы» былыя гітлераўцы і злачынцы займаюць высокія партыйныя і ўрадавыя становішчы. Служакі розных дыктатураў знайшлі там супольную мову. Да некаторай ступені гэта зусім нармальна. Мэтады гвалту камуністычнага рэжыму ў савецкай зоне, як і ў кажнай іншай падкамуністычнай краіне, амаль нічым ня розьняцца ад мэтадаў былога нацыянал-сацыялістычнага рэжыму. Камуністыя перасьледуюць свабоду слова і свабоду сумленьня; яны кантралююць прэсу; разбудоўваюць і выкарыстоўваюць апараты тайнай паліцыі; не дапушчаюць свабодных і тайных выбараў; праводзяць неабгрунтаваныя арышты сваіх грамадзян; і толькі адна — камуністычная — партыя трымае ў сваіх руках увесь дзяржаўны і адміністрацыйны апарат.

Таму камуністыя ў савецкай зоне Нямеччыны мусілі-б найменш выступаць супраць дэмакратычнай Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі. У іхным дзяржаўным і партыйным апараце шматлікія ключавыя становішчы знаходзяцца ў руках былых высокапастаўленых супрацоўнікаў Гітлера.

Вось, напрыклад, Арно фон Ленскі, генэрал-маёр усходнянямецкай гэтак званай Народнай Арміі, дэпутат Народнай Палаты, сябра цэнтральнага ўпраўленьня Таварыства савецка-нямецкай прыязьні і гэтак далей. Да 1945 году Арно фон Ленскі быў кадравым афіцэрам Вэрмахту, апошнім часам у рангу генэрал-маёра. Ад 1939 да 1942 году гэты Арно фон Ленскі быў кадравым ахвіцэрам ў дзяржаўным апараце савецкай зоны — быў сябрам страшной памяці нацыянал-сацыялістычнага «Фольксгэрыхтсгофу» (Народнага трыбуналу) ў Бэрліне. Заходнябэрлінскі Камітэт свабодных юрыстых апублікаваў дакуманты, зь якіх вынікае, што Арно фон Ленскі, будучы сябрам гэтага гітлераўскага трыбуналу, удзельнічаў у выдаваньні несправядлівых цяжкіх прысудаў супраць 19 нямецкіх, польскіх і галяндзкіх грамадзянаў. А сьмяротны прысуд супраць работніка Ёгана Пранге, выдадзены за супраціў нацыстоўскаму рэжыму, падпісаны Арно фон Ленскім.

Кідаецца ў вочы вялікая колькасьць былых эсэсаўцаў, якія займаюць сяньня высокія становішчы ў савецкай зоне. Адным зь іх зьяўляецца Рудольф Фазэль, які ўжо ў 1928 годзе ўступіў у нацыстоўскую партыю, а ў 1932 годзе стаўся эсэсаўцам. Нядаўна Фазэль быў навет узнагароджаны ордэнам ураду гэтак званай ДДР за тое, што, зьяўляючыся цяпер дэпутатам акруговай рады ў Кэмніц, добра праводзіць камуністычную працу.

Былыя эсэсаўцы зьяўляюцца цяпер таксама дэпутатамі ўсходнянямецкай гэтак званай Народнай Палаты. Да такіх належаць, напрыклад, прафэсар Курт Зойбэрліх, цесны супрацоўнік Гітлера, і Ёахім Ройк — эсэсавец з асабістай ахобы Гітлера. Вось якія «антыфашыстыя» трымаюць сяньня ў сваіх руках уладу ў савецкай зоне Нямеччыны. Але гэта далёка ня ўсе.

Кіраўнік шпіталя, лекар, доктар Рэкцэй, ад 1933 году быў сябрам нацыстоўскай партыі і супрацоўнікам гітлераўскай сакрэтнай паліцыі. Ён ведамы тым, што выдаў у рукі гэстапо цэлыя групы антыфашысцкіх арганізацыяў. Ён адказны за сьмерць гэтых людзей. Аднак усходнянямецкія камуністычныя ўлады ня то што ня судзяць яго самі, але адмаўляюцца таксама выдаць доктара Рэкцэя ў распараджаньне заходнянямецкага суду, бо гэты гітлеравец — актыўны камуністы.

Навет у цэнтральным камітэце ўсходнянямецкай кампартыі сядзяць былыя эсэсаўцы. Вось, напрыклад, Эрнст Гросман, сябра ўсходнянямецкай камуністычнай дэлегацыі на 19 зьезьдзе КПСС ў Маскве. У 1940 годзе Гросман, будучы сябрам эсэсаўскіх аддзелаў, ахоўваў гітлераўскі канцэнтрацыйны лягер ў Заксэнгаўзэн.

Былы давераны Гімлера і супрацоўнік гэстапо, эс-эс-обэрштурмбанфюрэр Курт Лянгэ, сяньня зьяўляецца адным з кіраўнікоў Міністэрства бясьпекі гэтак званай Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі. Органы Бясьпекі савецкай зоны Лянгэ разбудаваў паводля ведамых яму ўзораў нацыстоўскага «СД».

Амаль усе ўплывовыя прафэсары і рэктары ўсходнянямецкіх вышэйшых школаў — гэта старыя нацыянал-сацыялістыя. Прыкладам можа быць прафэсар Гюнтэр Кольмэй — цяперашні прафэсар палітычнай эканоміі і сябра ўсходнянямецкай кампартыі.

Як бачым, камуністыя ня маюць найменшай падставы падымаць крык аб уяўным засільлі фашыстых у Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспубліцы. Запраўднае палажэньне выглядае якраз наадварот.

Дзіўнае супрацоўніцтва дзьвюх таталітарных сыстэмаў, якое ўжо раз выявілася ў славутым пакце Рыбэнтропа—Молатава, у крыху зьмененых формах і абставінах працягваецца далей. Ворагі свабоды і дэмакратыі — расейскія бальшавікі — для насаджэньня сваёй таталітарнай сыстэмы ў акупаванай імі зоне Нямеччыны амаль усе адказныя становішчы ў гэтак званай ДДР перадалі ў рукі былых спрактыкаваных таталітарыстых — фашыстых-гітлераўцаў.

### ТРЭШЧЫНА Ў КАМУНІСТЫЧНЫМ БЛЁКУ

(Заканчэньне зь 1-ае бач.)

го боку, а савецкае з свайго пачалі раптам высылаць дэлегацыі і ў эўрапэйскія краіны з камуністычным рэжымам. Нарады камуністычных кіраўнікоў, якія адбываліся нядаўна ў Бухарэсьце і Софіі, у цэнтры ўвагі ставілі якраз кітайска-савецкія разыходжаньні. КПСС паслала на гэтыя нарады сваіх сяброў прэзыдыюму. Інакш кажучы, КПСС уважае свае пазыцыі загрожанымі і пачала іх адкрыта бараніць.

У якой стадыі цяпер знаходзіцца канфлікт КПСС з кітайскім камуністычным кіраўніцтвам, можа найлепш паказвае рэдакцыйны артыкул, які нядаўна зьявіўся ў «Жэньміньжыбао». У ім гаворыцца, што Кітай пабудаваў ужо сацыялізм. Ды важнае ня гэта: аўтар артыкулу кажа, што Кітай, пры пабудове камуністычнага грамадзтва, павінен спадзявацца толькі на свае сілы. Інакш кажучы, тое, што здавалася спачатку чыстымі ідэялягічнымі разыходжаньнямі, набывае характар адкрытага спаборніцтва паміж кіраўніцтвам Савецкага Саюзу і Кітаю. Якія будуць вынікі гэтага спаборніцтва — пакажа будучыня...

**ХОЧАШ ЗРАБІЦЬ СВАЙМУ БЛІЗКАМУ ПРЫЕМНАСЬЦЬ І АДНАЧАСНА КАРЫСЬЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ, ПАДАРУЙ ЯМУ КАМПЛЕКТ КНІЖАК**

**ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

### ГАДАВІКІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**З Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» можна выпісваць поўныя гадавікі «Бацькаўшчыны» (ня пераплеценыя) за наступныя гады:**

**1953, 1954, 1955, 1956, 1957, 1958 і 1959.**

**Цана аднаго гадавіка разам зь перасылкай 5 амэрыканскіх даляраў або іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце.**

**Дзеля таго, што ўспомненых камплетаў Рэдакцыя мае вельмі абмежаваную колькасьць, жадаючым іх атрымаць радзім сьпяшацца з выпіскай.**

# Адказ „Земляку“

Першага травеня сёлета «Бацькаўшчына» (№18) надрукувала артыкул «Тамсама будзеце» — «адкрыты ліст землякам» ад «Земляка». Чытаючы гэты ліст, у мяне паўстала перакананьне, што ён пісаны нейкім інтэрнацыяналістым, што схаваўся пад накрыўку верніка, каб спад яе рабіць закалот у нашым грамадзтве. На маю думку, «Бацькаўшчына» не павінна зьмяшчаць гэткіх лістоў, у якіх хтосьці нас будзе западозраваць у нацыянальнай нясьведамасьці, у атэізьме, ува ўсіх адмоўных якасьцях, якія наводзяць на думку, што народ наш, быццам, не дарос да самакіраваньня сваім собскім жыцьцём. Спачатку ня маючы намеру адказваць, я перадумаў, аднак, бо маўчаньне — знак згоды, а згаджацца зь цьверджаньнямі «Земляка» ніяк нельга.

Зразумела, кажнаму патрыёту баліць душа ад думкі, што паўтара мільёны суродзічаў сталіся ўгнаеньнем для чужых культураў. І нашыя шляхі зь імі, відаць, больш ніколі ня зыйдуцца, бо мы жывём вялікай ідэяй незалежнасьці й свабоды свае бацькаўшчыны — ідэяй, за якую аддалі жыцьцё найлепшыя сыны Беларусі: Грынявецкі, Каліноўскі, тварцы Акту 25 сакавіка. Вы-ж, «Зямляча», і вам падобныя жывяцё духам расейскага вялікадзяржаўніцтва — белага, або чырвонага. Выйшаўшы із свайго народу, выбраўшыся з галіты, у якую загналі нас расейскія-ж акупанты, ды абросшы ў Амэрыцы далярамі, вы, як трутні, часта забыўшыся пра сваіх родных на бацькаўшчыне, пачалі тут працаваць на карысьць панявольнікаў свайго-ж народу. Мы знаем вашыя дрэўцы — гэта расейскае праваслаўе, на чырвоных сучкох якога вы разгнязьдзіліся. Але ведайце, што раз вымеценае сьмяцьцё больш ня ўносяць у хату, і яго няма патрэбы таксама трымаць на нашым нацыянальным панадворку. Ня трэба вучыць нас, як быць рэлігійнымі. Беларускі народ стаўся рэлігійным, калі Маскоўшчына жыла яшчэ ў дзікім стане, і гэта яна пабарбарску нішчыла нашыя сьвятыні на працягу гісторыі, як нішчыць іх і цяпер.

Сваёй пісанінай «Зямляк» хоча паказаць сябе вельмі рэлігійным чалавекам. Але ці можа быць чалавек рэлігійным, быць хрысьціянінам, калі ён ня дбае пра свае грамадзкія арганізацыі, калі яму нічога не абходзіць, што дзесьці ў Эўропе ў лягерах сотні хворых, калек, удоваў і сіротаў, якія бяз духовага й матар'яльнага падтрыманьня ад сваіх суродзічаў будуць гібець там да скону веку? Ці можна назваць рэлігійнаю гэткую чэрствую душу? Гэткага тыпа можна назваць толькі чырвоным маскоўскім агентам, бо толькі гэткаму будзе залежаць на тым, каб дэзарганізавалася грамадзкае жыцьцё.

Калі паслухаць «Земляковае» парады ды адвярнуцца ад усяго, апрача царквы, дык усе тыя няшчасныя, якім арганізаваная беларуская эміграцыя стараецца прыйсьці з дапамогай, вымушаныя будуць варочацца назад у «рай», адкуль цяпер вядзецца ўзмоцненая прапаганда ды дзе цікуе на кажнага загібель на высланьні.

Ніхто не пярэчыць першараднаму значаньню царквы ў жыцьці народу. Але калі грамадзтва будуе Царкву, дык трэба, каб яно было зарганізаванае, нацыянальна сьведамае ды пры дапамозе сваіх грамадзкіх арганізацыяў здольнае адрозьніць праўдзівы крыж, на якім быў расьпяты Хрыстос, ад хвальшывага крыжа, за якім хаваецца наш адвечны панявольнік.

Выстаўляючы сябе за рэлігійнага чалавека, «Зямляк» кадзіць дэмагогіяй, калі, спасылаючыся на сьв. Мацьвея, хоча давесьці нам, што грамадзкія арганізацыі перашкаджаюць жыцьцю. Сьв. Мацьвей казаў, быццам-бы, што ніхто ня можа служыць двум гаспадаром, бо аднаго будзеш любіць, а другога ненавідзець. Але гэта злаўмыснае перакручваньне сэнсу словаў Апостала. Сьв. Мацьвей казаў, што нельга служыць Богу й д'яблу. Але нідзе ў Эвангельлі ня сказана, што нельга служыць Богу й свайму народу. Царква дае магчымасьць служыць Богу, грамадзкія арганізацыі, — служыць свайму народу.

Зь «Земляковых» разважаньняў можна зрабіць высноў, што служыць таму народу, зь якога ён паходзіць, або тэй дзяржаве, што дала яму прытулак і магчымасьць будаваць цэрквы, — гэта служыць д'яблу. Але «Зямляк» сам сабе пярэчыць, бо й ён-жа выконвае ўсе абавязкі перад дзяржаваю. Дык ці ня служыць ён двум гаспадаром?

Калі-б «Зямляк» меў крыху больш розуму, дык ён пабачаў-бы шмат выпадкаў, дзе людзі служаць Богу й свайму народу. Ці прыкладам, архіяпіскап Макарыёс, цяперашні прэзыдэнт новае дзяржавы Кіпру, ня служыць Богу й свайму народу? А гэткіх прыкладаў можна падаць тысячы.

Дарэмныя «Земляковыя» высілкі й правакатарскія парады кульнуць на выбарах нацыянальных лідараў. Сярод нас ня будзе гэткіх, што пойдуць шляхам злоснага янычара. Зашмат мы перацярпелі ад «прыяцеляў» з усходу й захаду, каб нішчыць сваё роднае, у вабароне якога загінула гэтулькі выдатных сыноў і дачок нашага народу.

**А. Стагановіч**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

**Абрам Тэрц**

# Суд ідзе

**(Працяг)**

Калі Ўладзімер Пятровіч абыходзіў другі паверх, ён заглянуў між іншым і ў дамскі пакой, які бывае ў любой установе, які ёсьць і ў судзе. Зайшоў ён туды ня зь цікавасьці, а каб пераканацца — ці няма там каго? Там было пуста, і толькі надпісы на сьценах затрымалі ягоную ўвагу. Ён прачытаў, усьміхнуўся, падумаў, што трэба сказаць вахтавому, каб заўтра-ж сьцерлі, і забыўся аб іх. Але я гэтыя надпісы помню.

У вагулньай уборнай, запершыся ў маленькай ціхай кабінцы, ты, урэшце, застаешся адзін на адзін з самым сабой. Тут ты можаш рабіць, што хочаш. Ніхто ня ўбачыць, не перашкодзіць. Мужчыны звычайна ў такіх выпадках пішуць толькі няпрыстойнасьці. Жанчыны аказаліся лепшымі за нас, яны пішуць словы каханьня й абурэньня:

«Коля, сьцеражы сябе.
Твая мама»
«Пятро! Ненавіджу цябе!
Тваёй ня буду».
«Мілы Федзя, я вас кахаю».
«Успомні, дзе будзеш».

І дзесяткі іншых фразаў, усё аб каханьні й растаньні. Той, для каго прызначаныя гэтыя словы, ніколі аб іх не даведаецца. Ды й напісана ўсё гэта не для чытача. А проста кінута ў прастору, на вецер, у самыя далёкія далячыні. Толькі Бог ці выпадковы дзівакаматар можа падабраць гэтыя малітвы й заклінаньні.

Я хацеў-бы таксама верыць у слова, як верыць гэтыя жанчыны. І, седзячы ў сваім пакоі, падобным на туалетную кабінку, глыбокай ночай, калі ўсе сьпяць, пісаць словы, кароткія й простыя, бяз задніх думак і адрасаў.

Напачатку было слова. Калі гэта праўда, дык першае слова было такім-жа чароўным, як надпісы ў жаночай уборнай гарадзкога суду.

Калі яно вымаўлялася, сьвет пачынаў жыць падобна да прэйскуранта. Усюды віселі дошчачкі з назовамі — «ёлка», «гара», «інфузорыя». Зь бясслоўнае пусьціні вылупляліся плянэты й зоркі. І кажны прадмет быў выкліканы сваім словам, і слова было справай.

— Судовай справай, — папраўляе мяне Гаспадар. — Ты чуеш, літаратар! Калі ўжо слова — дык абвінавачвальнае слова. Калі ўжо справа — судовая справа. Слова і справа.

Я чую.

Суд ідзе, суд ідзе па ўсім сьвеце. І ўжо не Рабіновіча, абвінавачанага гарадзкім пракурорам, а ўсіх нас, колькі ёсьць разам узятых, штодня, штоночы вядуць на суд і допыт. І гэта завецца гісторыяй.

Зьвініць званок. — «Ваша прозьвішча? Імя? Год народжаньня?»

Вось тады й пачынаеш пісаць.

## РАЗЬДЗЕЛ IV

На сход у Заапарку зьявілася адна Каця.

— Дзе-ж рэшта. — папытаўся Сяргей. — Няўжо спалохаліся? Мы-ж яшчэ ў калгасе аб усім дамовіліся.

— Парамонаў ня прыйдзе, у яго сяньня ў інстытуце сэмінар па марксізму.

Каця хавала ў рукавы асьцюдзянеўшыя пальчыкі.

— Кваліфікую гэта як звычайную баязьлівасьць. Вось вы, Каця, вы-ж прыйшлі. У вас у школе таксама-ж раньні расклад. А вы не спалохаліся.

— І вы, Сяргей, вы.

Яна задыхнулася ад гэтага «вы», інтымнага й паважальнага. Ёй усе казалі «ты» — настаўнікі, сяброўкі, кандуктары тралейбусаў і трамваяў. І раптам, быццам яны закаханыя — «Вы, Каця», «Вы, Сяргей». А Сяргей усё націскаў: вы, вы. Наперадзе была справа небясьпечная, ад дзяцінных звычак пара адвыкнуць.

— Вы паглядзеце, Каця, — ён паказаў у бок Заапарку. — Гэта падобна да плянэты Марс. Там, кажуць, уся расьліннасьць чырвоная, а не зялёная.

Восень была ў самым разгары. Дрэвы ў парку зьмянілі ахварбоўку. Яны пагойдвалі фантастычнай, не па зімоваму чырвонай ліствой. І хаця Каця нічога ня ведала аб іншых плянэтах, яна радасна заківала сваімі вялікімі акулярамі.

— Так, праўда, зусім як на Марсе.

У касе Заапарку яны купілі білеты па два рублі — для дарослых — і ўвайшлі.

Усе беглі глядзець на зьвяроў, а тут, у пачатку марсіянскай алеі, ля ставу, дзе ўжо зьявіліся занадта паўдзённыя пэліканы, амаль нікога ня было. Толькі пара маладых людзей у вадналькавых дэмісэзонных пальто й аднолькавых капялюхох. Адзін зь іх тыцкаў пруткам праз краты, стараючыся прыцягнуць увагу дзікіх качак, што драмалі на беразе. Часад-часу ён навет кракаў пакачынаму. Але, відаць, ягонае краканьне было недастатковa натуральным, таму што разумныя птушкі не адклікаліся.

— Сядайце, — сказаў Сяргей. — Тут поўнасьцяй бясьпечна. Прапаную абмеркаваць праграму нашага таварыства.

— А як будзе называцца гэтае таварыства? — пыталася Каця і тут-жа запрапанавала: — Давайце яму прыдумаем прыгожае, гучнае ймя, накшталт «Маладой Гвардыі». Прыкладам, «Вольная Расея».

— Бачыце, Каця, зь верагодных крыніц нам ведама: за мяжой ужо ёсьць такая шпіёнская радыястанцыя — «Свабодная Эўропа». Могуць падумаць — мы зь імі заадно. Неабходно аддзяліць сябе ад усіх ворагаў. А то імпэрыялістыя выкарыстаюць.

Сяргей натхняўся. Ён зьняў кепку, не баючыся прастудзіцца, і размахваў ёю ў такт словаў. Перад Кацяй адкрыўся сьвет, камуністычны й прамяністы.

Самую высокую зарплату атрымоўвалі прыбіральніцы. Міністры-ж для большае бескарыснасьці знаходзіліся на худым пайку. Грашовую сыстэму, катаваньні, зладзейства — скасавалі. Наступіла поўная свабода, і ўжо так добра выходзіла, што ніхто нікога не саджаў, а кажны меў паводля патрэбаў. На вуліцах былі расклееныя плякаты Маякоўскага. І яшчэ іншыя, прыдуманыя Сяргеем: «Сьцеражыся! Ты можаш абразіць чалавека!» Гэта на ўсякі выпадак, каб не забывалі. А хто забудзе — расстрэл.

Зрэшты, у Сяргеевым выкладзе ўсё выходзіла куды больш стройна, і Кацi заставалася няяснай толькі адна дэталь: цяпер-жа сілай зброі ськінуць урад ці, магчыма, пачакаць, пакуль іншыя краіны ня скончаць з капіталізмам? Сяргей радзіў пачакаць сусьветнай рэвалюцыі, але прызнаваў, што пасьля, як гэта ня сумна, давядзецца ўсё-ж ськінуць.

Каця папрасіла ўнесьці ў праграму яшчэ адзін пункт: аб сумесным навучаньні хлапцоў і дзяўчат у старэйшых клясах сярэдняе школы. І, дакрануўшыся да Сяргеевай кепкі, нясьмела дадала:

— Калі мы ўжо ўсядно ў заапарку, дык давайце паглядзім тыгра.

Сяргей нездаволена нахмурыўся.

— Гэта на карысьць справы, для канспірацыі, — паясьніла Каця.

— Ну, што-ж, — наважыўся ён, падумаўшы. — Для канспірацыі — можна.

У зімовых будынках было цёпла й мокра як у аранжарэі: жывёлаў падагравалі. Адно зьмеі, утульна скруціўшыся пад шклом, адчувалі сябе дома. Іншыя жылі тут як быццамбы на станцыі. Хадзілі з кута ў кут, часаліся зусім бяз прычыны, чакалі.

— Яны чакаюць свабоды, — адзначыла Каця. — Яны лятуцяць вырвацца з гэтае ванючае турмы.

У цесных загародках, скупа пасыпаных сенам, падскакваюць на сваіх кастылёх аўстралійскія кенгуры. Малпы сьпешна развучваюць жэсты інтэлігентнага нэўрастэніка. Як пішучыя машынкі стракочуць маленькія папугаі, сабраныя ў вагульнай камэры. Непапраўна адзінокі слонь.

На асеньнім халадку мала хто застаўся: ваўкі, якіх цяжка адрозьніць ад сабак, рысі, падобныя на павялічаных катоў. Агульную цікасьць узбуджала авечка. Праўдападобна, яе пасадзілі ў клетку зь недахопу жывёлаў або для поўнай навуковасьці. Калі ўжо сядзіць за кратаю — значыць не надарма.

# СЬВЯТАР І ЗМАГАР

29-га сёлетняга ліпеня ў Нью-Ёрку адыйшоў на вечны супакой Мітрафорны Пратаерэй а. Хведар Данілюк, пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансвіку (40 ангельскіх міляў ад Нью-Ёрку), дзе ўжо супачываюць Уладзімер Кабушка, Нікодым Дубяга й Аляксандар Орса. Свой турботны, неспакойны шлях з шматлікімі, пераважна горкімі, прыгодамі й нягодамі, закончыў у супакаеньні, без хваробы й фізычных цярпеньняў, пад доглядам свае жонкі — Матушкі Марыі й сям'і сына Барыса. У чацьвер, 28-га ліпеня, а. Хведар адчуў зьнямогу, а назаўтрае апаўдні адаў Богу душу.

Сумная вестка хутка абляцела вернікаў БАПЦарквы й ахінула іх глыбокай жалобай, бо ўсе адчулі дарагую страту.

Сьв. памяці а. Хведар Данілюк паходзіў із сялянскае сям'і. Народжаны 12-га жніўня 1887 году ў сяле Сурынка, Жыраўскае воласьці на Слонімшчыне, ад бацькі Васіля й маці Агрыпіны. Бацька, служачы ў расейскім войску, страціў здароўе. Дык і дагляд дзяцей і праца на гаспадарцы ляжалі пераважна на маці. З гэтае прычыны ўжо з маладых год дзецям прыйшлося асабліва цяжка адчуць нягоды беларускага сялянскага жыцьця.

Ззамаладу ў а. Хведара быў нахіл на духоўны шлях. Па сканчэньні пачатковай школы ў Сурынцы ён уступіў і скончыў Духоўную школу пры Жыровіцкім манастыры; таксама праслухаў псаломшчыцкія курсы, пяяў у манастырскім хоры. Быў некаторы час настаўнікам у вёсцы Забульле на Слонімшчыне, пасьля псаломшчыкам у в. Глінная, Кобрынскага павету. У 1910-ым годзе ўзяў шлюб з Марыяй Стэльмашук.

Аднак, да прыняцьця духоўнага сану а. Хведару суджана было прайсьці шлях ваенны. Да гэтага спрычынілася паўсталая ў 1914 г. першая сусьветная вайна.

У паслужным сьпіску, які выдала Беларуская Вайсковая Камісія падпаручыку Хведару Данілюку, запісана:

У 1914 годзе прызваны на вайсковую службу па мабілізацыі й назначаны ў Нова-Георгіеўскую крэпасную артылерыю.

У 1916 г. уступіў у Гатчынскую школу прапаршчыкаў, скончыў школу.

У 1917 г. узьведзены ў прапаршчыкі, назначаны ў 223 Запасны полк малодшым ахвіцэрам 4-ай роты; назначаны начальнікам вучэбнай каманды; пераведзены ў 118 Шуйскі полк.

У 1918 г. з прычыны дэмабілізацыі адпраўлены ў распараджэньне Таганроскага Воінскага начальніка. У 1920 г. уступіў у Беларускае Нацыянальнае Войска; назначаны ахвіцэрам рэзэрвы; адпраўлены ў Паўстанчую Брыгаду на Случчыне й назначаны начальнікам вучэбнае каманды. У 1921 г. прыбыў з камандзяроўкі; пераведзяны ў Беларускую Вайсковую Камісію й назначаны на пасаду канцэлярыстага І-ае клясы ў эвідэнцыйны аддзел (у сьпіску пададзеныя дакладныя даты).

Паслужны сьпісак закончваецца 25-га красавіка 1921 году прыпіскаю, што «із слоў ахвіцэра Хведара Данілюка й некаторых дакумэнтаў, відаць, што ён зь І-га травеня 1919 году да 23 травеня 1920 г. служыў у Летувіскім войску й пераменаваны ў лейтэнанта.»

На ваеннай службе Хведар Данілюк здолеў папоўніць сваю агульную асьвету да ўзроўні сярэдняй.

Гэты параўнальна кароткі час, поўны кіпучае дзейнасьці, гарачых узрываў, але й нягодаў. Калі малады ахвіцэр Хведар Данілюк быў пераведзены ў 118 полк, дык перад выездам на Румынскі фронт удзельнічаў у Вайсковым зьезьдзе ў Маскве, на якім разглядаліся справы арганізацыі беларускіх вайсковых адзінак.

На Румынскім фронце была заплявананая беларусізацыя чацьвертага вайсковага корпусу. Айцец Хведар успамінаў аб гэтым і пералічаў прозьвішчы камандзераў. Нажаль, пісьмовых успамінаў не пакінуў. Сам займаў становішча нацыянальнага камісара. І вось, калі ў Менску шпаркім тэмпам ішла арганізацыя нацыянальных сілаў, а побач зьбіраліся й варожыя сілы, малады ахвіцэр Хведар Данілюк запаліўся жаданьнем перавезьці нацыянальныя вайсковыя адзінкі ў Менск. Аднак, пры агульнай у той час разрусе й пры адсутнасьці свайго транспарту ды пры наяўнасьці варожых сілаў навакол, высілак яго скончыўся на тым, што была заладаваная першая ў пляне частка жаўнераў з запасамі амуніцыі ды накіраваная ў Менск. Але Менску яна не дасягнула. Неўзабаве прыйшла дэмабілізацыя й раззбраеньне.



**Сьвятой Памяці Мітрафорны Пра таерэй Айцец Хведар Данілюк**

Па дэмабілізацыі 4-га корпусу, у красавіку 1918 г., Хведар Данілюк быў накіраваны ў Таганрог, дзе жыла сям'я, а пад восень 1918 г. разам зь сямёй вярнуўся на радзіму ў в. Вярэйкі, Ваўкавыскага павету (ужо пры нямецкай акупацыі). У Ваўкавыску быў абраны на старшыню Беларускага Нацыянальнага Камітэту й поўніў гэтыя абавязкі да арышту польскай акупацыйнай уладай. Пад весну 1919 году ўцёк з польскага арышту ды накіраваўся ў Коўню на тагачасную Летуву, дзе нейкі час быў пры ўрадзе БНР, а пасьля, цэлы год, ад травеня 1919 г. да 28 травеня 1920 г., служыў у летувіскім войску; быў камандантам мястэчка Аліты й браў удзел у змаганьні з польскай акупацыяй.

Калі вярнуўся дамоў у 1920 годзе, быў арыштаваны новымі акупантамі — бальшавікамі. З арышту ўдалося ўцячы, дзякуючы бальшавіцкай паразе пад Варшавай ды паўсталаму ад гэтага хаосу. Вярнуўшыся з бальшавіцкага зьняволеньня, узяў актыўны ўдзел у вэрбаваньні ахвотнікаў у першы беларускі полк у Горадні, за што быў зноў арыштаваны Палякамі й адбыў арышт у Беластоку.

У той час Палякі яшчэ галасілі свой ашуканскі лёзунг: «вольні з вольнымі, рувні з рувнымі», і стрымліваліся ў гнабленьні беларускіх вайскавікоў. Была зарганізваная й дзеяла Беларуская Вайсковая Камісія. Ахвіцэру Хведару Данілюку ўдалося звольніцца з арышту й падацца да службы ў Беларускім войску. Беларуская **Вайсковая Камі**сія накіравала яго ў Слуцкую Брыгаду ў Семежаве на становішча начальніка вучэбнае каманды. Тут прыняў чынны ўдзел у Слуцкім Паўстаньні ды пад пераважаючым ціскам бальшавіцкіх гордаў мусіў разам з войскам адыйсьці за рэчку Лань, на тэрыторыю пад польскай акупацыяй. Як ведама, вайсковыя аддзелы былі разброеныя, а служба ў Вайсковай Камісіі хутка скончылася, бо й сама Камісія была зьліквідаваная. Па ліквідацыі Беларускае Вайсковае Камісіі вярнуўся да свае сям'і ў в. Вярэйкі, дзе заняў пасаду псаломшчыка ў мясцовай царкве.

Гэтак скончыўся ваенны шлях ахвіцэра Хведара Данілюка, поўны гарчыні й нездаваленьня. Гэтая гарчыня й нездаваленьне штораз мацней схілялі думку прыняць сьвятарскі сан. Канчальным повадам да гэтага паслужыла сьмерць адзінае дачкі Глафіры.

У 1921 годзе, 24-га верасьня, айцец Хведар прыняў пасьвячаньне ў іерэі ў Горадзенскім Катэдральным Саборы ад тагачаснага Беластоцкага Япіскапа Ўладзімера. Першую сьвятарскую службу праводзіў у Дзевяткавічах, потым у Наваельні, Шчары, Парэччы, Крывошыне, Заблудаве, Гавенавічах на Слонімшчыне ды Навагрудчыне.

Сьвятарская дзейнасьць пад польскаю акупацыяй ня была спакойнаю. Бесьперапыннае ўсоўваньне польскага ўраду ў царкоўныя справы, ці то ў спробах адбіраньня цэркваў, ці то ў захадах накіданьня царкоўнае вуніі, ці то ў спробах шырэньня арганізацыі «праваслаўных Палякаў», ці то ў патрабаваньні ўвядзеньня польскае мовы ў багаслужбы, — усё гэта спрычынялася да непакою, турбот і няпрыемнасьцяў і патрабавала цьвёрдасьці й мужнага адпору.

Сьв. памяці айцец Хведар ніколі не пахіснуўся й мужна абароньваўся ад польскага нацыянальнага ціску й ад вульгарнай пранырлівасьці, зь якой Палякі гэты ціск праводзілі. Дзеля гэтага й меў прыкрыя турботы ды бяду.

У 1935 годзе, у выніку падступнага даносу польскае паліцыі й польскага актыву, пад ціскам наваградзкага ваяводы, быў зьняты з прыходу ў Парэччы ды высланы ў памочнікі настаяцеля прыходу сьпярша ў Крывошын, пазьней у Заблудава. У 1936 годзе быў засуджаны на 6-ёх месячны арышт «з завешэнем» за «абразу народу польскага». У апэляцыйным судзе ўдалося апраўдацца.

З прыходам бальшавікоў у 1939 г. а. Хведар разам зь сямёю зноў быў арыштаваны. З арышту ўдалося выратавацца, дзякуючы заступніцтву зьняволеных у Картуз-Бярозе, якія пасьпелі ўжо вярнуцца. Увосені 1939 г. пераехаў у Глоўсевічы, дзе ачольваў прыход з дзьвюмя цэрквамі: у Глоўсевічах і ў родным сяле Сурынцы.

У 1942 годзе, пры нямецкай акупацыі, змушаны быў уцякаць ад партызанаў. Тады быў назначаны другім сьвятаром у мястэчка Дзярэчын, Слонімскага павету, дзе й праслужыў да эвакуацыі з Бацькаўшчыны. У тым-жа 1942 г. а. Хведар Данілюк, як дэлегат ад царквы, браў чынны ўдзел у Менскім Саборы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, і да свае сьмерці застаўся верным ёй, непарушным стаўпом яе Абнаўленьня-Аўтакефальнасьці.

Неўзабаве-ж, у 1944 годзе, прышлося перажыць адну з найгарчэйшых нягодаў — расстаньне з Бацькаўшчынай ды эміграцыю на Захад. У Нямеччыне да капітуляцыі а. Хведар працаваў як работнік на паперні, на чыгунцы ды на сельскай гаспадарцы. Па капітуляцыі зарабляў на хлеб у хвабрыцы.

З аднаўленьнем БАПЦарквы быў благачынным на францускую зону й рэпрэзэнтаваў БАПЦаркву на колькіх міжнацыянальных зьездах духавенства ў францускай зоне.

У Амэрыку выехаў зь сямёй у жнівені 1950 году. Прыбыўшы ў Амэрыку, айцец Хведар увесь час быў настаяцелем заснаванага ў Брукліне прыходу БАПЦарквы, а пазьней настаяцелем Катэдральнага Сабору сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Ад Сабору Япіскапаў БАПЦарквы атрымаў узнагароду: Мітру й сан Мітрафорнага Пратаерэя. Апошнюю Божую Службу меў у саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пры Яго Высокапрэасьвяшчэнстве Архіяпіскапе Васілю 24-га ліпеня сёлета, а праз тыдзень, 31-га ліпеня, у суправодзе Яго Высокапрэ-

**(Заканчэньне на 4-ай бач.)**

---

Каця ад усяго сэрца шкадавала і ваўкоў і мядзьведзяў. Яна сьхілялася да таго, што заапаркі разам з турмамі трэба зьліквідаваць. Сяргей слушна пярэчыў: навука патрабуе ахвяраў. У імя сьветавога прагрэсу. Аднак у будучым грамадзтве зьвярынцы наагул перабудуюць. На месца гэтых канураў — прасторныя, сьветлыя клеткі. Калючы дрот у выглядзе галінак дрэваў, каб ня так было іх відаць. Жывёлы будуць адчуваць сябе, амаль, на волі.

Слухаючы ягоныя прамовы, Каця заплакала.

— А раптам яны не павераць, што гэта для іхняй карысьці? Сяргей, мілы, я не магу, я не хачу, каб цябе арыштувалі. Куды-ж я падзенуся?

Зьняўшы закапаныя акуляры, яна зрабілася бездапаможнай, як усе жанчыны. Супакойваць яе было прыкра й соладка. Вось зьвязаўся зь дзяўчынкай! А яшчэ зьбіралася глядзець тыгра для канспірацыі. Калі-б не змаганьне ў будучыні, ён-бы яе пакахаў. Рахметаў таксама глушыў у сабе ўсялякія асабістыя пачуцьці. І Павал Карчагін.

Яму было шкада сябе — такога харошага, такога чэснага, гатовага загінуць за ўсіх.

У ваддзеле драпежных жывёлаў яны зноў сустрэлі пару дэмісэзонных пальто. Адно зь іх гаварыла, зьвяртаючыся да леапарда:

— Што ты можаш, зэбра, у параўнаньні з чалавекам. Глядзі, Толя хвастом вільнула. А скура ўся ў радзімках. Такую-б зэбру дома над ложкам павесіць.

Леапард глядзеў на яго круглымі, дзіцячымі ад зьдзіўленьня вачыма. Ён зьдзіўляўся з гэтае жывое ежы, закручанай у пальто і ў нагавіцы, быццам цукерак у паперку. Леапард, праўдападобна, быў з навапрыбылых і яшчэ дрэнна разьбіраўся што да чаго.

Тыгр спаў на правым баку, прыхіліўшыся да кратаў. Ягоная сьпіна была зусім паласатая. Здавалася, на ёй адбітыя пруткі, да якіх ён прываліўся.

Калі адчынялі дзьверы на вуліцу, зьвяры ваяўніча аглядаліся й ускаквалі. Яны мітусіліся, быццам пасажыры на правінцыянальнай станцыі перад прыходам цягніка. Прыбліжаўся час абеду.

Толькі тыгр ня рухаўся. Ён спаў як забіты.

☆

Пракурор павярнуўся на левы бок. Ён любіў спаць днём пасьля начное працы. Цела адпачывае, але розум ня дрэмле, калі вакол ясна. І сьпіцца неяк спакайней.

Засынаючы, мы быццам садзімся за тэлівізар, які забыліся наладзіць. Рэчы расплываюцца, далечы гаснуць, людзі ватнымі нагамі крочаць па ватнай зямлі. Ты не разрозьніваеш рысы родных і знаёмых, што прысьніліся. Усё бачыш ня ў фокусе. Але ўсяму загадзя верыш, як малое дзіцё. Вось — гэта Марына, а гэта — Карлінскі, і ён кажа:

— У багоў і жывёлаў няма сораму. Сорам — наш манаполь. Калі Адам і Эва ператварыліся з малпаў у чалавека, яны засароміліся. Грэхаўпадак — пазнаньне — сорам. Не разарваць!

Аблічча Марыны струменілася ў розныя бакі. Каралінскі таксама меў даволі празрысты выгляд. Ягоныя далоні плавалі ў цёмным паветры, як дзьве мэдузы, падымаючыся й апускаючыся. Ён таяў у ўсьмешках і ў недамоўках.

— Сорам гэта табу, якое мы парушаем. Таму й парушаем, што сорамна. Рабіць недазволенае — што-ж можа быць чалавеку больш прыемным? Тут — уся наша розьніца ад багоў і жывёльных . . . стварэньняў . . .

— Гэта ты — стварэньне, — хацеў адказаць Глобаў і анямеў. Тэлевізыйны экран вырас, быццам у яго ўставілі лінзу. На пярэднім пляне распухла жывёлападобнае страрэньне з кацінымі лапамі й жаночым тварам.

— Мне лепш падабаюцца сфінксы, — абвесьціла Марына. — Яны куды больш прыгажэйшыя за вашых сарамлівым малпаў.

— Самі вы эгінскі сфінкс! — залемантаваў Карлінскі, радасна жахаючыся. — Вас-бы сюды, у музэй, у якасьці экспанату.

Ягоная худая фігура распылялася туманам. Уладзімер Пятровіч стаяў у Эгіпце ймя А. С. Пушкіна. Музэйныя залі нагадвалі заапарк. Розныя старажытныя народы былі да таго забітыя й забабонныя, што пакланяліся навег львом і бараном. Але рысаваць яны ўмелі яшчэ вельмі дрэнна: да чалавечых ног прыладжвалі зьвярынныя галовы або наадварот.

Разгледзець усе гэтыя падробнасьці не хапала часу. Перад ім, на мармуровым п'едэстале, выцягнуўшы пярэднія лапы, горда ляжала Марына.

— Кіс-кіс-кіс, — павабіў яе Глобаў.

Яна падпаўзла бліжэй. «Шкада, што я сплю, і добра, што выпарыўся Карлінскі», — пасьпеў ён успомніць, калі Марына, мяўкнуўшы, паклала яму на плечы свае кіпцюрастыя лапы. Ейны твар дыміўся, як кубак чорнае кавы. І ён прыгубіў духмяны напітак, засынаючы ўсё глыбей і глыбей.

✶

Ня ўсьпеў Глобаў адкрыць вачэй, як адкуль не вазьміся зьявіўся грамадзянін Рабіновіч. Ён адбываў кару пры музэю выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна, працуючы ў якасьці экскурсавода. Што за праступнае разявацтва назначыць яго сюды!

Нахабны й назойлівы як усе Жыды, ён даў зразумець: яму, маўляў, зьверху даручана суправаджаць пракурора. Пасьля сфінксавых ласкаў (паглядзеў, нікчэмнік!) той-жа забавязаны пазнаёміцца зь некаторым сакрэтным матар'ялам.

— Толькі глядзі — каб містыкі ні-ні!
— Добра, — абяцаў Рабіновіч.

Над пнэўматычнымі дзьвярыма сьвяцілася цытата з твораў Гаспадара:

«ВЯЛІКАЯ МЭТА НАРАДЖАЕ ВЯЛІКУЮ ЭНЭРГІЮ»

За цытатай — прастор, шкляны слоік — у цэнтры, а ў слоіку — засьпіртаваныя мазгі, пакручастыя, як зямная паверхня. Паўкулі іх павольна гайдаліся. Раптам, па тонкіх трубках, праз рэторты й кольбы, празь перагонныя кубы, плыў зеленкаваты раствор.

Рабіновіч хіхікнуў:

— Заўсёды, трапляючы сюды, я крыху палохаюся.

Задрыжэўшым пальцам ён тыцнуў студзеністы камячок. Той працягваў пульсаваць, быццам нічога ня было.

— Ня чуе. Усё думае й думае, ідэі вытварае. Магчыма, у яго на бацькаўшчыне была каханая дзяўчына. А каб на сустрэчу пайсьці — ног няма. На ягоных зьвілінах, думаеш, далёка запаўзеш? . . Я хвалююся, грамадзянін пракурор, каб ад гэтых бесьперапынных раздумоўваньняў ён не звар'яцеў. Тады-ж уся сусьветная цывілізацыя змарнуецца! Мы нейкі дурны атам рашчапілі і ўжо непакоімся. А тут, у гэтым слоіку, уяўляеце сабе, — ланцуговая рэакцыя мазгоў. Узрывы ідэяў, самумы расьсеяных думак. Ледзь не дагледзеў, — куды там вадародная бомба! Ня толькі наша сьціплая плянэта, — галяктыка на кавалкі разьляціцца. Я, праўду сказаўшы, баюся за Бога . . .

— Не разьляціцца твая галяктыка, не дапусьцім, — адобрыў яго Глобаў. — А аб Богу ты забудзься, Бога ідэялістыя выдумалі . . . Прызнайся-ж, Рабіновіч, што гэта за ідэі вытвараюцца тут? Ці не рэакцыйнай якасьці бязглузьдзіца лезе з мазговае рэакцы?

— Што вы, грамадзянін пракурор! — пакрыўдзіўся Рабіновіч. — Адно толькі высокія мэты, вялікія ідэялы. Ад іх — уся рэшта, паводля законаў дыялектыкі. Розныя культуры, рэнэсансы. У нас бяз хлусьні. Жадаеце асабіста пераканацца?

— Ну, дзейнічай! Але хутчэй! Ня маю часу: прасынацца пара.

**(Далей будзе)**

